УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-5
Б99

**Бялячыц, Р.**

Б99 Споведзь накцюрна : вершы, паэма / Рычард Бялячыц. — Мінск : Кнігазбор, 2015. — 184 с.

ISBN 978-985-7119-48-6.

Лірычны герой новай паэтычнай кніжкі аўтара па-ранейшаму ўважлівы і чулы да праяў жыцця чалавека і прыроды. Яго душэўны стан дапамагае заглыбіцца ў спрадвечныя тэмы любові да роднага краю, шчасця і кахання. Абвостраная гадамі памяць запрашае чытача да шчырасці ў роздуме і перажываннях.

Паэма «Сонечны брод», прысвечаная маці, нібы становіцца працягам жыцця самага дарагога для паэта чалавека.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-7119-48-6**

# Вяртанне пчалы

*Словы ўпалі ў зорныя засекі,*
*Пахлі рукі небам і ранетам.*

## НА ЎЗРОЎНІ ДЫХАННЯ

Вы спыталіся мудра,
І я
Скарыстаюся роднаю мовай.
Паўза доўгая,
Нічыя,
Бо адказ і цяпер не гатовы.
Іншых моў не прыдбаў я нідзе.
І на ўзроўні дыхання шукайце
Слова, моўленае на штодзень,
Мной паўторанае
Пасля маці.

## ПАЧАТАК

Было нядаўна:
Злева, справа,
Каб атрымаць узімку «пяць»,
Аблокі лета
Кучарава
За нас за партамі сядзяць.
Малююць яркія вясёлкі,
Ледзь дождж півонямі адпах,
Для той дзяўчынкі —
Поўдзень звонкі,
Бяссонны вечар у лугах.

Гарачы ліпень на Купалле
Паліў кастры
І плёў вянкі.
І ноч тады кароткай стала,
Як міг
Да тоненькай рукі.

## З ДАРОГІ

Зімой заінелай
І ў жнівень сухі
На возеры Белым
Сядзяць рыбакі.

І на кіламетры
За Гроднам наўкруг
Заходнія ветры
На прывязі труб.

Арэх нібы грэцкі,
Марнее за так
Саюза Савецкіх
Пакінуты знак.

Прыпомніцца мне раз
У поўдзень такі
Запознены нераст
Радзімай ракі.

У снежаньскай згодзе
Дзядзькі-вусачы.
Сядзяць, як стагоддзі,
Яны —
Хоць лічы.

## ВЫСОКІ І ЎЗНЁСЛЫ

*Уладзіміру*
*Караткевічу*

Несправядліва.
Высокі і ўзнёслы,
Ставіце кропку на снег.
Але ўсё ж
Нібыта з рук выбіваеце вёслы
Пад вераб'іную цёмную ноч.

Там, на скрыжалях і на перагонах,
Покуль яшчэ небасхіл не пагас,
Там напачатку жыцця
І сягоння
Выжыць хацелася кожнаму з нас.

Вочы не спяць,
Прыадчынены дзверы,
Ціха ступаюць гады па жыцці.
Несправядліва
Смяяцца і верыць,
І больш за тое —
Пайсці.

## З ЛЕСУ

У лес асенні,
Нібы ў дзень свой позні,
Прыйшоў сягоння
З сонцам маладым.
На сподачку груздоў
Чыесьці слёзы
Застылі таямніча назаўжды.

І цішыні сабраў
Аж кошык цэлы,
І падзяліцца,
Як аплаткаю,
Гатоў.
А журавы яшчэ не паляцелі
З сагрэтых доўгім летам балатоў.

Апошні ліст
Апошнім словам з намі
Падзеліцца,
Ляціць з аблок калі.
А трактары спяшаюцца плугамі
Урваць у маразоў
Кусок зямлі.

На небасхіле спіць
Хмурынка чынна.
Ёй усяго напоўніцу стае.

Выходджу з лесу.
Нават павучынка
Прычын шукае
Помніць пра мяне.

## АСТРЫНСКІ ВЕРШ

*На прыезд Алеся*
*Пашкевіча, Леаніда*
*Дранько-Майсюка,*
*Алеся Аркуша*

Дзе ўпала бліскавіца
Ці прысніцца
Пакуль што мела
Нам па-над вадой,
Паэт зачараваны завушніцай,
Паглядам астрынчанкі маладой.

А за акном маўчала Алаіза,
Прыгожая і ўзвышаная зноў.
І зачынаўся ўсход
Яе паблізу
Таго стагоддзя і надзей, і слоў.

Усё сплыло аблокамі і потам.
І сто гадоў,
І сто ліхіх дарог
Спачатку развялі,
З’ядналі потым,
Любіць і не любіць
Каб кожны змог.

## ПАСЛЯСВЯТОЧНАЕ

Сталы закінуты на вышкі,
На вуліцы маёй — ні голасу.
Табе ж Купала светла выйшаў
Праз рэчку шпацырам ад Коласа.

Карчма зачынена найгорай,
І словы — хітраю лісіцаю.
Твой бультэр'ер ірваўся ў горад
На дываны ці не персідскія.

Ва ўсім жыла нямая страта.
Дарог нажніцы пазазублены.
Так свята скончылася раптам
Слязой шчасліваю матулінай.

* * *

Будзе і песня,
Прысак абы.
Холад траскучы,
Хоць трэсні.
Сеўшы на комін зімой,
Вераб'і
Грэюцца дымам
І песняй.

* * *

З-за слоў на пальчыкі прыўстану.
І горка так,
І сорам мне:
Махаю крыллем апантана,
А не ляціцца,
Як раней.

Лясы пытальнікаў навокал
Трасуць чубатай галавой
І не даюць прастору воку
Спаткацца, стрэнуцца з табой.

Я ж — іх шчымлівае карэнне.
А ўзыдзе раніца калі,
Ужо не ведаю,
Ці дрэнна,
Ці добра тое на зямлі.

## ПАТРЫЯТЫЧНАЯ НОЧ

Тут кусочак неба пры акне
І вясны пачатак у галовах.
Дзеду да паэзіі — як мне
Да бліжэйшай зоркі непуцёвай.

Гэтых слёз і ліп не перажыць,
Як ні спадзяёмся на забавы.
Вось адлічаць часу капяжы
І зязюля крышачку дабавіць.

Свіслач ты наведаеш сваю
З Каліноўскім мужным,
Вечна годным.
Я ж заўсёды, сцішаны, стаю
Між усходам і сівым заходам.

Абтэлефаную маладосць
Верную,
Іконную,
Святую.
Хтосьці нам паверыць, можа,
Хтось,
Вейкі апусціўшы, пасумуе.

Ты праедзеш міма — буду рад,
Сцежкаю да зораў нашых выйду.
У радзімы вёсен будзе шмат.
А без нас якія краявіды?

Госцем грэх праспаць такую ноч,
І спакой яе парушыць грэшна.
Акрамя адданых, верных воч,
Ні пазык, ні доўгу і ні рэштаў.

Цешымся, сустрэнемся абы,
Светламу, як маці, успаміну.
На Палессі ты сябе забыў,
Пад Літвою я сябе пакінуў.

* * *

Перон.
Узмах гітары развітальны,
Клён прывакзальны
Ростанню намок.
Чамусьці я не там,
Дзе млеюць пальмы,
Дзе дзюны, песні, чайкі і пясок.
І востраць рысі вольна свае кіпці
На ўсходзе аб пагорак залаты.
І дзе на водах
Дрэмле купал Сіці,
І дзе, нарэшце, мроіш цудам ты.
Дзе не пабыць мне да змяркання, мусіць,
Ісці, ляцець за небакрай здаля.
А хтосьці будзе сніць аб Беларусі,
Дзе звон Каложы,
Нёман
І дзе я.

## ЭЦЮД

Кацілася сонца па рэчцы,
А рэчка — між траваў і лозаў.
А я то з трывогай,
То ўлегцы —
За імі.
І ўсім — па дарозе.

* * *

Ранак за вокнамі матавы,
І не вярнуліся з выраю гусі.
Як ні стараюся,
Ганны Ахматавай
Вольнасці і хараства не нап'юся.

Светла было,
І далонямі поўнымі
Вочы збіралі салодкія соты.
Раптам сцямнела за кратамі-вокнамі
Ціхай таможні.

А потым, а потым…
Конь пад Пятром
І Нява прадвясенняя
Злосна глядзелі хвілінаю кожнаю.
Аж захлынаешся сумнымі песнямі,
Болей пазбавіцца гукаў няможна.

## ПРЫСВЯЧЭННЕ

*Уладзіміру Раманавічу*
*Дубку*

Добрыя весткі
Да часу паспелі
Па зразумелай прасторы жыцця.
Месі рассейвае
Дождж на Уэмблі,
Пырскі агнёў
Па-над Нёмнам ляцяць.

Лебедзь з вады
Дзень адведае свежы.
Здзіўлена стыне
Палаца сувой.
Звон нечаканы
На майскае вежы
Згодна насустрач
Кіўне галавой.

## ПТУШЫНЫ КАСЦЁР

Навакол зары —
Касцёр птушыны.
Але, покуль возьмецца агонь,
Не глядзі зайздроснымі вачыма,
Не паглядвай сквапна на яго.

Як зіма ў ствалы лясоў засвішча,
Пальцамі здубелымі патрэш
Нанач жменю крошак для сінічак,
Каб збудзіў крылом назаўтра верш.

Там усход пачырванелым прасам
Згладзіць небасхілу берагі.
Ты прыходзь,
Падоўгу будзем разам
Памінаць суровыя снягі.

Рысакамі паляцяць да сонца
Думкі па нябёсах, па траве.
У забытай
Мамаю
Ватоўцы
Пад страхою
Добры час жыве.

## УСЕ СВЯТЫЯ

Пад ліставей дубовы
І спадзяванняў дым
Вяртаюся да слова
І каюся прад ім.

Няясная трывога,
Як холад, праняла.
Забыўся стаць прад Богам
І тварам — да святла.

Дрыжыць гасцінец Млечны
За шыбай, убаку,
Як месяцава свечка
На бацькавым грудку.

За гэтай паннай-ночай
На роднае зямлі
Зніякавелі вочы,
Дарогі адышлі.

Замоўленыя быццам
Ад стратаў і нуды.
І нельга нам забыцца,
Адкуль ідзём,
Куды.

## СУСТРЭЧА

Падзей ні стрэнулася б колькі вам,
Ёсць радасць жвавая зрання —
Жыве на вуліцы Вясёлкавай
Вясёлае сабачаня.

Яшчэ на соннае абочыне
Народ спрабуе дзень на слых,
А ён для ўсіх у пазалочаных
Танцуе ў кудзерках сваіх.

Бо гаспадар, відаць, з усмешкаю
Смакоты дасць,
А не нагой.
І кольцам сны жывуць бязгрэшныя
Па-над дыванчыкам яго.

Смяецца і перасміхаецца
Макрэчай-носікам са мной.
Яшчэ не ведае, не знаецца
З сабачай злосцю і брахнёй.

Дай жа на потым лапу мокрую:
Як час вяроўку з дзён саўе,
Пад ваўкаватым шэрым покрывам
Баюся не пазнаць цябе.

* * *

Па полі, як па волі,
Ляцеў пад капяжы.
Усё, што мог, дазволіў
Смяротны, покуль жыў.

І месячык канава
Туліла паначы.
Спяшаюць птушкі нават,
Дадому летучы.

Дазволіў з юным ранцам
Сабе сустрэч, дарог.
А слова адцурацца,
Нібы жыцця,
Не мог.

## ДЗЯДУЛЕВА СВЯТА

Дзядуль хоць крыху пададзень
Пярынай, пухам, мохам:
Адкаркаваўшы белы дзень,
Пацягваюць патроху.

Вядуць барозны ў райскі сад,
Як колісь, саматугам.
І трэба ж поле зачасаць
Бліжэй да вёскі плугам.

## ВЯСНА

Пасаджу вясною вішню,
Асвятляючы зямлю.
На агледзіны бы вышлю,
Замуж нібыта пашлю.

Прыпадымуць людзі вейкі —
Хопіць зімку зімаваць.
Белабрысыя папеўкі
Стануць вішні падпяваць.

Набрыняе сок асенні
Ад зары — куды ні глянь.
Падасі руку напэўна
Ты ў завішненую рань.

Што, адкуль тады бярэцца
На радзімай старане,
Як вясной пасадзіш дрэўца
Пры дарозе
Чым раней?

## НА РАДАЎНІЦУ

Прыгожая,
Аж сунімала дых,
Пад небам сцішаным вясеннім.
Праз тры магілкі ад маіх
Ты клала кветкі ў задуменні.

Схіліўшы нізка галаву,
Стаяла светла і прыгожа.
Аж я забыўся,
Што жыву.
Даруй мне за кашчунства,
Божа.

## ЭПАХАЛЬНЫЯ СВЯТЫ

Эпахальнага свята пасля,
Напярэдадні сонца
Здаецца —
Пачынаецца песня здаля
Для ўваскрэслай душы і для сэрца.

Пачынаюцца светлыя дні
Ад нябёсаў да чуйных карэнняў.
Дні, калі засынаюць яны
Без хмурынак маны і сумненняў.

Эпахальныя святы, калі
Вам вачэй ад мяне не адвесці.
І калі едзе Бог па зямлі
Ў наш падворак
На белай карэце.

## УСМЕШКА

Афішы ліпеньскай астаткі
Шматкаляровай, цыркавой
Вярнулі час вясёла-гладкі,
Як глянец неба.
Галавой
У шапцы брылікавай клоўна
Трымцела ўсмешка пры ствале.
І ручка гладзіла чароўна,
Туліла да сябе яе.

## САД

Застаюся ўпершыню без яблыкаў —
Ні антонаўкі празрыстай у запасе.
Покуль па прасторах свету я блукаў,
Сад стары мяне не дачакаўся.

Цвіў, трываў, знямог, чакаючы,
Пахіснуўшыся ў апошнім радзе,
Покуль вернецца бадзяга з далечы,
Покуль месца хворае пагладзіць.

Новы сад за кедрамі, за пальмамі
Прыжыве пад подыхам крыніцы.
Будуць кроны душамі крыштальнымі
Над далінай нашаю свяціцца.

Там, па-за вясною, па-за летамі,
Ты ўсё тая ж,
Я — староннi нейкі.
Словы ўпалі ў зорныя засекі,
Пахлі рукі
Небам і ранетам.

* * *

Забыты,
Воляю слабы.
Здаецца, верыцца няхай ім,
Што я не дыхаю нібы
І не люблю,
І не кахаю.

Аглух ад грукату,
Аслеп
Ад мітусні ў вачах і бляску.
Дзе час, які ўсміхнуўся б мне,
Свой,
Повен фарбаў наскіх?

Усё цішэй,
Усё часцей
Свае радкі сабе чытаю.
Радзіма, поўная гасцей,
І па-над ёй — вясна чужая.

## А ТЫ...

Прытульны ранак,
Поўдзень ганаровы,
Калі аблашчыць
І мяце калі.
Спазнаю свет
Кахання і любові,
Кранаючыся неба і зямлі.

Ледзь крылле скласці
З вечара паспею,
Сусвет здагадку
Вынайдзе са сноў.
Адну перажыву
Зіму-завею,
А ты — той свет,
Што вабіць зноў і зноў.

## ЛІСТЫ

Лісты.
Не зачапіцца ім
Ні за гняздо, ні на капоце.
Я быў таксама маладым.
Прыпомніць вечнае прыходзьце.

Няхай ляцяць у свет святых
Мансардаў міма і палацаў.
На міг адзін, адзіны міг
Ім трэба з намі затрымацца.

Усцешыць што
Пагляд далей
Пад пластам памяці і снегу?
Ляцяць лісты на глум — але,
Здаецца, кружаць абярэгам.

Ты помніш ціхае акно.
Яму і зараз моцна верым.
На дол не падаюць адно
Лісты пажоўклыя шпалераў.

## ПАКЛІЧ

Пакліч на возера,
Прыпомні,
Нібы яшчэ раз дагані.
А рыба будзе біць аб промні
Хвастом,
Нібы па далані.

На сінім сподку пазалоту
Ад сонца рыба прынясе.
Пакліч.
І гэтым скажаш, хто ты
І кім мне маюць быць усе.

## ДА НАРОДЗІНАЎ

Застылі зораў шалі,
Як Бог,
Як я прасіў.
З табою ноч не спалі
З-пад Росі галасы.

Світальная пярына
Аздобіць міг такі.
Маўчалі за дзвярыма
І я,
І гваздзікі.

* * *

Імклівым ласянём там, дзе гушчэй,
Ва ўкрыцце добрай памяці шугае
Неўтаймаваны год адзін яшчэ.
І толькі дзён мільганне пад нагамі.

Лісты рупліва засцілаюць дол,
Пакуль апошні на далонь не ляжа,
Як думкі-арыштанткі ў ціхі стол
Кладуцца год за годам.
І аднак жа…

Хто вейкі ўсмешкай сонцу прыпадняў,
Па ценю хто сваім ад нас пакрочыў,
Паверу вам
За пяць хвілін да дня,
За крок адзін
Да салаўінай ночы.

* * *

Нібы коні
Спелыя антоны
Хрумстаюць запенена ўначы,
Шыны колаў
Трушчаць манатонна
Час,
Аж рэхам ходзіць далячынь.

Яблык упадзе на дол ружовы,
Бы метэарыт начны, на дах.
Назаўжды забыліся няўжо вы,
Як антонаўкаю месяц пах?

* * *

Яшчэ не верыцца, што вішні
Расці тут будуць і цвісці,
Што стану я чужым і лішнім
У дні наступным
І жыцці.

Але найболей я не веру,
Што ты прыпомніш хоць калі,
Як лашчыў прыцемак нас шэры
І журавы скрозь ноч плылі.

Ты ціха пальцамі прасіла
Пабыць з табой,
Пабыць яшчэ.
Трымалі змоўніцкія сілы
Тваіх азораных вачэй.

За дзень сасмяглыя палеткі
Альбо стамілі нас,
Альбо…
Я прад дарогай — дурань гэткі,
Што развітацца мог з табой.

* * *

Калі страсянуцца сады
Ад снегу прад самай вясною,
Я іншым вярнуся сюды,
І будзе мой смутак са мною.

Вы толькі, пазнаўшы ці не,
Туманным прыкотранскім раннем
Між іншым камусьці ці мне
Шапніце адно —
Прывітанне.

## ТЫ КАХАЛА

*Г. Чарняк*

Ты кахала, і явай было —
Не ішла,
А плыла і ляцела.
Ад сукенкі бязважкай святло
Ахінала таемнае цела.

Што казаў,
Што рабіў,
Што хацеў,
Пад змярканне ніяк не прыпомню.
А ў вачах, на губах, на шчацэ —
Толькі радасці след,
Толькі промні.

Гаркаваты ўспамінак на смак.
Маладая метафара ў белым.
Не падправіць той момант ніяк:
Ты кахала —
Плыла
І ляцела…

## А МОЖА...

У містыку паверыць мала,
Што ў недалёкую пару
Дзвярная ручка
Месцам стала
Сустрэчы
Нашых цёплых рук.

І больш ніхто па добрай волі,
Чароўны апусціўшы трап,
Сюды не вернецца ніколі,
Каб зелле піць,
Смяяцца каб.

Кліч жураваў,
Рыканне лося
Там, дзе да ночы верас пах.
А можа, гэта падалося
Ў памежных векавых лясах?

## ШЧАСЦЕ

Праз час заб’ецца,
Бо пачуе сэрца,
Як поклічна звініць у хаце шкло.
Няма такіх дарог,
Каб не сустрэцца,
Няма акон,
Каб сонца не ўзышло.

Прыпомніць бусел,
Як па полі гойсаў
Я, памяркоўны ўжо і юнаком…
Твайго спакою
І сваіх нябёсаў
У рэшце рэшт
Пайду вартаўніком.

* * *

Бяды такой, што я забыўся
Прыслаць самотную паперу.
Усё ж на месцы — Котра, высі.
Чаму яшчэ маліцца, верыць?

Сняжынкі ажыўляюць хвою
І нас счароўваюць нанова.
З табой забудземся на тое,
Калі разыдземся без слова.

* * *

Знічку толькі позіркам крані,
Потым — думкай,
Як яе не стане.
Так даўно не стала цішыні,
Нібы роўнага,
Жаданага
Дыхання.

## ЛЯ СОНЦА

Са сваіх вышынь-глыбінь,
Здалёку,
Покуль бэз ля вокан пышна пах,
Сонца набліжалася,
Аж покуль
Не сагрэлася ў тваіх вачах.

Так знайшлася мілая прычына
Мне пагрэцца проста ля яго,
Каб мяне пакінуць немагчыма
Стала
Прад завеяй
Аднаго.

* * *

Яшчэ шпакі не паляцелі,
Глытаючы асенні дым.
На правадах світанак цэлы
Сядзяць, паціхлыя зусім.

І павядзе шпачыху следам,
Дзе цёпла будзе ёй,
Важак.
А я штораз нанова еду
Туды, дзе ты,
Дзе светла так.

## ПОРУЧ З ТАБОЙ

Добра, што сустрэліся з табой
Там, дзе шчырасць запануе зрэдку.
Я — сумёт, навеяны зімой,
Ты — вясной абуджаная кветка.

Смешна станавілася, нябось,
Заціхалі і сварыліся да жалю,
Як адзін другога між нябёс
Думкамі, душой апераджалі.

Я аднойчы здолею прыйсці,
Ты вярнуцца акурат паспееш,
Каб сустрэўся раз яшчэ ў жыцці
На світанні зіхатлівы неруш.

* * *

Зара — сіпатаю кабетай.
Вадзіцы б раніцы з вядра.
Малюе памяць сцежкі, дзе ты.
Але зрывацца не пара.

Пара прыйшла цяпла, паветра
І фотаздымкаў у стале,
Духмяных траваў дужа рэдкіх,
Як успамін…
Але, але…

Мая надуманая праца —
Суквецце ў полі, то сувой.
І так захочацца прыўзняцца
Над снегам,
Лёсам,
Над сабой.

* * *

Гор няма.
Паўсюль калоссе,
Кажуць, гне галовы за даламі.
Дзе ж тады пазасталося
Ўсё былое, што між намі?

Следам за праменнем строгім
Мы ідзём, нас толькі двое.
Ты — сцяжынай,
Я — дарогай.
А паміж —
Ці не былое?

## ПРОСЬБА

Вы пазваніце праз паўгода,
Якраз прад доўгаю зімой,
Калі суцішыцца прырода
І мы — як ластаўкі — прад ёй.

Не трэба будзе выпадковых
І не патрэбных болей слоў.
Там недаказаныя словы
Пад ногі кружацца ліствой.

Употай знікнуць журавіны
На балатах пад снег тады.
«Люблю» вам ціха і бязвінна
Паўторыць хтосьці малады.

Вы напішыце, калі гоні
Пазамятае і шляхі,
Каб не маніць сабе сягоння
Пад час пакуль што дарагі.

## У ВЯСНЫ

У вясны знаёмая чарга:
Падфарбуе травы, рэчкі, вецце,
А затым, як ападзе туга,
Неба, думкі да адной пасветліць.

А затым, каб свет заззяў ярчэй
На маёй забытае радзіме,
Дойдзе да тваіх чарга вачэй,
Каб глядзела верна і праўдзіва.

## ВЯСЕЛЛЕ

Стаў лес кучаравы і стромкі,
Пад вечар зрабіўся гусцей.
І вось надзяваюць пярсцёнкі
Нядаўнія дзеці дзяцей.

Як шмат за сталамі шчаслівых,
Вясёлых, гуллівых яшчэ.
Запросіце ў танец калі вы,
Не хопіць для вас мне вачэй.

Хаваліся пад парасонам
Жаданыя вусны і час.
Украдзены вальс Мендэльсона
Гучаў, несумненна, для нас.

## МЯДЗВЕДЗІЦА І ПОЎНЯ

Там, дзе з глыбінь прыцярушыў
Нёман вяршаліны сёння,
З цемені выспела грушай
Поўня
Жаўтлява-чырвона.

Каб не скацілася долу
Груша,
Пасціхнулі гулі.
Мёдам запахла наўкола —
Зверху Мядзведзіца ўчула.

І, як маліны, з кустоўя
Грушу смактала спакойна.
Клікнула ты —
І гатоў я
Кіпця адведаць за поўню.

## КАШТАНАЎ ЧАС

Прышлі мне вестачку ў канверце.
А ў нас пара, што дзеліць Бог:
Цёмна-карычневыя сэрцы
З каштанаў падаюць да ног.

Дзіцё каштанікі футболіць.
Яго і восень не спыніць.
І, як на сонейка,
Сабою
Дзед не рашаецца ступіць.

Я камячок прышлю ахвоча.
Ты беражы яго
Ці кінь,
Каб пад акном вясновай ноччу
Збудзіўся памяццю з глыбінь.

## СЛОВА

Прыходзіць стомленае ў сне
І маладое ва ўспаміне.
Вы так глядзелі на мяне,
Як я на Вас глядзець павінен.

І адумысна не маўчаць,
Па-беларуску думаць многа
Пра небакрай і сенажаць,
Пра Вашу поначы дарогу.

Ўзышло ліхтарнае святло,
Як сонцам, абняло нанова.
І па дарозе Вам было,
На жаль,
З чужым знаёмым словам.

## СНЕГ

Ні па ласцы, ні па крыўдзе
Незнаёмай вулкай
Больш сюды яна не прыйдзе —
Душна тут і мулка.

Толькі вёсны не мінаюць
Гнёздаў, што ўваскрэслі.
Добра, хоць прысядзе памяць
На краёчку крэсла.

Раптам неба закружыла,
Да акна прыпаўшы.
Словы, музыка — чужыя,
А маўчанне — Ваша.

* * *

У цянёк схаваліся машыны.
Чуе свежасць соку вараннё.
Млеюць ліпы
Ў голасе птушыным,
Ім куды сысці ад прамянёў?

Замаўляеш словы за каго ты?
Я ж цябе,
Пакуль зямлю пячэ,
Думкай засланяю ад спякоты,
Ад вачэй
І роспачы яшчэ.
Ад зямных і паднябесных кручаў
У спакоі, сне і на бягу.
Толькі вось адростані балючай
Засланіць, здаецца, не змагу.

## ВЕЧАР

Ты грэбуеш, вядома,
Напісанымі мной
Дарогаю дадому,
Нябёсамі, вясной.
І вобразам у белым
Акрыленым сваім,
Табе незразумелым,
Далёкім і чужым.

## ЗАЙЧЫК

Бегаў зайчык — і жвавы які! —
Па руцэ, па сцяне.
Хоць сачок на галоўку накінь,
Каб зрабіўся радней.

А затым паскакаў у лясы,
Заблудзіўшыся дзе.
Толькі з вокан чуваць галасы,
Толькі радасць ідзе.

Стала сонца вышэй за мяне
Аж на паўгалавы.
Ці ў люстэрку па свежай вясне
Засмуціліся вы?

## СМЕЛАСЦЬ

Нібы пад урачыстасць
Тыя столікі,
Каханнем не занятыя яшчэ,
Плывуць, плывуць па зале часу
Воблакі
З маіх
І проста да тваіх вачэй.

Пастаўлю на абрус аблок шампанскае,
Прысяду, ускрылю сваю душу.
Тады пабачыш, як цябе па-панску я
Хоць раз прад цэлым светам запрашу.

Галактыкі агнямі звалі столькімі.
Хай пачакаюць, вечныя, яны.
Прысядзем за бліжэйшым белым столікам
Насупраць нашай добрай цішыні.

## ЭФІР

Так маўчаць сівыя зоркі,
За аблокі нікнуць зноў.
У эфіры двое толькі
Разумеюць сутнасць слоў.

Па сваёй арбіце чынна
Кружаць жоўтыя лісты.
Варажы, цыгань вачыма,
Як умееш толькі ты.

Ні на раніцу лагодны
Наш прастор не паслабеў.
Я ж на сувязі заўсёды
І з табой,
І без цябе.

## НАШЫ СЛОВЫ

Дзень каштанавы тут, пры акне,
Коціцца між здзіўленых прахожых.
Вы, здаецца, выбралі мяне
Сонейкам карычневым прыгожым.

Вечны зарапад пад журавы
Беражэ для дзён наступных сілы.
Што пачуць хацелі моцна вы,
Покуль восень ранняя кружыла?

Горад і адчайны мой каштан.
Я і сам да смеху выпадковы.
Толькі на прыступках дзесьці там
Верна нас чакаюць нашы словы.

# Свет дзівасілу

*Які я шанцоўны і дужы,*
*Пакуль мая памяць са мной.*

* * *

Усходзяцца бліскаўкі-лужы,
Чароты атуляць сцяной.
Які я шанцоўны і дужы,
Пакуль мая памяць са мной.

Нявызнаны свет каляровы,
Дзе ты,
Дзе твой вобраз паўстаў.
Для цёплай рукі
І для слова
Пакіну краёчак ліста.

* * *

Апошні раз
І рад у рад
Ствалы шурпатыя падбелім.
Стагоддзе цэлае назад
Плыў над табою белы вэлюм.

І каб раз’яснела зара,
Каб ліцвіны за лесам чулі,
Як на баяне гімн іграў
Юнак у белае кашулі.

Хто зразумее, можа, нас
Праз час, у светлую нядзелю.
Апошні раз
Пабелім сад,
Каб вочы,
Душы пасвятлелі.

## ДЗЕД

Дзед сказаў яшчэ паспаць,
І паснулі ўсе, як мышы.
Сам пайшоў на сенажаць
Па сваёй вясновай цішы.

Дзед паслаў
І сам прыняў
З поля свой дыван дзівосны.
Толькі лічыць бусляня
Для чагось яго пракосы.

* * *

Можам гаварыць з табой,
Але
Пры жывой, удумлівай крыніцы
З кожным словам
Можа стаць святлей,
Але й хмарна можа станавіцца.

## ДВА СЛОВЫ НА ДАРОГУ

Мы праз Каменку на Гродна
Едзем з думкай ва ўнісон.
Тут калісьці, верагодна,
Сніў Маскву Напалеон.

І паляну падбіраем,
Каб без высілкаў і страт
Нам назваць палянку раем,
Потым едучы назад.

Мы з табою словам бліжай,
А да ісціны — ані.
Ну і што ж, як не з Парыжа,
А XII Карл сніў.

Потым белы паўтравее
Снег
Ваколіцы каля.
Зажадаем у завею
Хоць якога,
А цяпла.

## БЫВАЕ

Новы год у горадзе.
Мы ж з палёў, з лясоў карэннем.
А таму нягордыя:
Дзе прысядзем,
Там сустрэнем
Мы, паслаўшы пад мяцеліцу
На прыступцы выпадковай
Навамодную газеціну,
Дзе пра нас —
Ніводным словам.

## РОЗДУМ

Усміхнуся,
Побач сяду
І кульнуся дагары.
Пакладзі ў маю шуфляду
На развод дукат стары.

Ні закляцце, ні пароль нам
Не патрэбен дзеля свят.
Вырву з сшытка для кантрольных
Жоўты ліст пад лістапад.

Мама шыла,
Раму мыла.
Хто б памог нам, каб знайсці,
Дзе вялося больш памылак —
На паперы
Ці ў жыцці?

## ПАНАМКА

Год мінуў.
І за май дужа прыткі
Паляцела дзяцінства ахвоча.
Год чакала панамка-накідка
Ў гардэробе каго?
А аднойчы
Стала ціха — ні словаў, ні смеху,
Як завершыў палеміку выраз
Цёткі Галі
Прыстойнага веку:
– Хтосьці вырас з яе,
Хтосьці вырас.

* * *

Паміж берагоў і лясоў
На краі маёй Беларусі
Па вузкакалейцы ішоў
Цыбаты прыветлівы бусел…

Відацца па ўсім — маладзень.
Спазнае на крыллях памалу:
Да Афрыкі лёту —
Не дзень,
Не тое,
Што ходу па шпалах.

## ПУЦЯВІНКІ

Па трасе — таблічка «Пятры».
Здзіўляемся шчыра:
Іх два там жыве
Або тры,
Але ж не чатыры…
Ад хат не адвесці вачэй
Пад вечар апалы.
І хочацца ведаць яшчэ —
А дзе ж тады Паўлы?

## СЦЕЖКІ

Раўло, стагнала і гуло,
Ліло і секла ўперамешку.
Там слова злое — буралом —
Пакрыжавалася на сцежках.

І спуджаны грамамі звер
Сышоў на іншыя сцяжыны.
А тут не выведаць цяпер,
Куды вялі,
Каму служылі.

І мы з табой ужо адной
Не знойдзем сцежкі той былiннай.
І толькі памяць над зямлёй
Вясной уздымуць верхавіны.

А журавы пакінуць строй:
Пачулі ўнізе яблынь замець.
Дзеля чагосьці нам з табой
Зязюля часу
Зноў надбавіць.

## ПРАПІСКА

Калючы, строгі кактус
Пры далікатнай ружы.
Ужыцца побач як тут —
З краін далёкіх дужа.

А мне і трэба ў сцюжу
І ў час застолля гучны
То згода цёплай ружы,
То мудрыя калючкі.

Галактыкай прайдуся,
А ім акна не мала —
Жывуць на Беларусі,
Дзе сонца прапісала.

## ЧАС

З табою мы сярод гасцей
І пры маўчанні сталым
Недачуваць усё часцей
Адзін другога сталі.

Дзе елкі ўпалі долу ніц —
Ад адзіноты, мусіць,
Няма ні нас і ні грыбніц.
Адно зязюля хлусіць.

Паплыў па воблаках паром,
Сысці на бераг варта б.
Быў час лагодным снегіром,
Цяпер — імклівы ястраб.

* * *

Таямнічасць сакавіцкіх сотаў
Да жыцця нанова прывядзе.
Колькі стрэч пакінута на потым —
Значыць, расставанняў і надзей.

Пакідаю ля палаты шэрай
Вас,
        нібыта ў полі на рагу.
Мне пашанцавала —
Я з паперай
Потым пасакрэтнічаць магу.

## САМОТА

Самой вясне, відацца, неахвота
Ляцець, звінець,
Завараджыць няўзнак.
Туманная сівая адзінота.
І толькі шпак,
Пакуль бяздомны шпак.

Чарэшневай вайны будзіць не стану
За тое, што са мной ты ў дзень сляпы.
З праменьчыкаў пуховых і туману
Ляпі жыццё крылатае,
Ляпі.

# КНІГА

Мы тут сустрэліся аднойчы.
Я — ваш прыхільнік і сусед.
Не наглядзімся вочы ў вочы,
То нагаворымся як след.

Парадуемся пасля зімаў,
Пакуль нам голасу стае,
Як не за дзень увесь радзімы,
То хоць за раніцу яе.

Ці зразумее хто памалу,
Перагартаўшы ўсе тамы,
Як мы любілі, як кахалі
І ненавідзелі як мы?

Напэўна, самі вінаваты:
Пакуль ахоўнік нас бярог,
Паадракліся клёнаў, хатаў,
Панахапаўшыся дарог.

## СУР'ЁЗНАМУ ГОСЦЮ

Прабачце вы мне надалей,
Прыехаўшы ў кут мой зялёны,
Калі на сур'ёзным стале
Заўважыце верш між законаў.

То юны,
То немалады,
Здаволены часам,
То босы.
Ён трапіў законна сюды,
Па волі душы
І нябёсаў.

Хоць раз усміхніцеся вы,
І сыдзе пакрыху бяда ўся.
Прабачце за той чарнавік,
Што белай воронай падаўся.

## ПЛАЧ

Рыба і тая сляды
Мае пакінуць у муле.
Горад — дзівак малады,
Вёска — мая бабуля.

Вёска на самым рагу
Ў свята
І поўднем, і ранкам.
Дапамагчы не магу
Нават скупым абяцанкам.

Плач па мінулым.
Няма
Хоць палахлівай надзеі,
Як завіхурыць зіма.
Хто я,
Навошта
І дзе я?

## РАНАК І ВЕРАБЕЙ

А пад чарапіцаю чутно,
Як даўно — па-над кулём саломы:
Верабей страчае над акном
Свежы ранак звычкаю вядомай.

Ад народзінаў заўжды ствараў
Песню
Ці не песню
Краю,
Што ад старадаўняга кастра
Да высокай зоркі далятае.

## РЭАКТЫЎНАЕ

Верш даравальны,
Прыстойна-застольны,
Ён для праспектаў і вёскі.
Тут пра святых і любоў —
Пратакольна,
Як пра білет камсамольскі.

Сталь у вачах стала ў голасе;
Болю
Ў клічніках — крэслі не крэслі…
Правільны верш і настрой,
А найболей
Правільны аўтар у крэсле.

Там пра дарогі, лясы і палацы,
Лёсы людскія і душы.
Прыйдуць пад вечар
Мяне запытацца,
Як паняволі я ўзрушан.

## САРОКА

На белым і чорным зімы
Сарока азвацца не хоча.
Даўно як не чуліся мы
І не сустракаліся ў вочы.

Любіла, як быў маладым,
Мая белабокая сведка.
На шляху стракатым маім
Стракочаш пра роднае рэдка.

Зямля, як паненка, здалёк,
А ўвосень у шэрых абносках.
Нібыта бязбуслава вёска,
Дарога маўчыць без сарок.

## ЛЕТНЯЯ ІДЫЛІЯ

Шматпавярховая туя.
Колькі пакойчыкаў там.
Хай верабейка майструе —
Хорам за песню аддам.

Сцеле руплівая пліска
Пухам пры самай сцяне.
Хоча — пад сонцам
Ці нізка,
Толькі б спявала пры мне.

Па наваколлі — ні руху,
І анямеў маладзік.
Перш чым нябеснае слухаць,
Трэба зямное садзіць.

## НАЧНАЯ ПРОСЬБА

Іскрынкамі думкі пацешныя
На шкле ручайком.
А захоча —
Мяцеліца вокны завешвае,
Імглой зацярушвае вочы.

Угледзьцеся ў цёмныя шыбіны,
Хвіліну-другую пастойце.
Вы тут
У цяпле,
У глыбі мяне
Так рады са мной
Адзіноце
Адной на дваіх,
Як мяцеліцы.
Адзеты вы не па пагодзе.
Нібы выпадкова прыгледзьцеся —
Ці прыйдзецца болей праходзіць.

## НЯБЕСНЫЯ КВЕТКІ

Апушчу парасон,
Далані
Разамкну над пралескамі.
Хай цвітуць
Для адзінай
Яны
Пад дажджамі палескімі.

Мне нябёсаў зашмат аднаму.
І блакіт на лясы навакольныя
Доўга капаў.
Пралескай таму
Нам адно любавацца дазволена.

## ПРАД ПАЛЁТАМ

А абляпішыны іголкі
Шануюць крылле.
Сёння ж я,
Лятаць не ўмеючы нікольki,
Вучу палётам птушаня.

У свет пусцілася зарана
З гнязда,
Асмеліўшыся ў сне.
І кот глядзеў са шкадаваннем
На неразумнага мяне.

## ВЕРАБ'ІНАЯ РАНІЦА

Прад усходам сонца зноў і зноў
Кожнаю пагодліваю раніцай
У арэшніку
Вяселле вераб'ёў
Мне на радасць зычна пачынаецца.

Ціха ў прыцемках.
Я ж па-дзіцячы рад,
Што, як мне, у ранні час не спіцца ім.
Лёгкакрылы песенны абрад
На памежку ночы з заранiцаю.

Стане зімка.
Будзе мне цяплей,
Як пачую пагалоску ціхую —
Па-над стрэшшам сонны верабей
Ладзіць дзень з галоднай вераб'іхаю.

Песня тая вечна пры стале
Ў кропельках,
У просіні,
У інеі.
І з гадамі словы ўсё мілей
Простыя,
Як песня вераб'іная.

* * *

Стане ціха.
Будзе пуста.
У кішэнях сум нашу.
Ты заглядваеш у люстра,
Як у блізкую душу.

Хтосьці восеньскі на ганку,
Позні нехта пры стале.
На цікаўную фіранку
Поўня радасці пралье.

Дачакацца без сумліву
Ты жадала ў зарапад
І другой вясны шчасліва,
І святых другіх Каляд.

## ТРЫ ТАЛЕРЫ

Край Айчыны.
Дня дзве кроплі.
Па-за шыбінаю гладкаю
Цішыня на туях мокне
Паміж мною і Галактыкаю.

Аж не верыцца, што блізка
Зачынаюцца мелодыі,
Гарады
І вершаў нізкі
Пад Мядзведзіцай галоднаю.

Край маўклівы.
Вецер танны.
Галубы і тыя парамі,
Покуль з куфра не дастану
Тры замоўленыя талеры.

## ДЗЬМУХАЎЦЫ

Квяцісты луг запаланіўшы
Майго маленства,
Дзьмухаўцы
Пад громам чэрвеньскім і ў цішы,
З пачатку лета
І ў канцы
Па сонцы ўсходзяць і заходзяць —
Нашэсце добрае яго.
Ім небяспечна ў агародзе,
Хоць кветкі поля аднаго.

Ані марозы, ні праполкі
Не страх для іхняй жаўцізны.
Ляцяць пушынкі,
І нікольки
Не дбаюць да зімы яны.

Не абмінуць ужо іх вокам,
Да вокан самых даплылі.
Няўжо расстанняў ёсць навокал,
Як дзьмухаўцоў тых на зямлі?

## МАРАФОНЦЫ

У Маскве
На марафоне,
Покуль рускім срэбра сніцца
І ад спёкі рэчка стогне,
Мерзнуць цяглыя кенійцы.

Ім бы далягляд пясчаны,
Караваны на далоні,
На худых руках начамі
Акіян люляць стамлёны.

Гэты вечны бег кенійца,
Покуль іншыя грашылі,
Каб жамчужынай свяціцца
З белым сонейкам
На шыі.

## МАЕ КАНТРАКТЫ

Мае кароткія кантракты,
Як летам прыцемкі ўначы,
Чароды, што знікаюць раптам
З нябёс,
На поўдзень летучы.

Яшчэ не раз няхай прысніцца
І мне, і вам
На добры час
Высокі роспіс бліскавіцы
Ў вачах і ў небе,
І між нас.

## ТАНЕЦ

Перад тым, як стане гола
І складзе мой вечар крылле,
На страсе танцуе голуб,
Выпраменьвае кадрылю.

Дзень канчаецца
І танец.
А яна ляціць на волю.
Адзінока, крыўдна стане
Мне,
І голубу — тым болей.

Для сябе, для вас, вясёлых,
Танцаваў
Ці буду скора.
Колькі музыкі наўкола —
Столькі, пэўна, і танцораў.

## ЯБЛЫНЬКА Ў ДАРОЗЕ

Яблыкі падаюць долу —
Крочыць пара залатая.
Яблынькі гучна наўкола
З лецейка ў восень ступаюць.

Шлях ім высвечваюць быццам
Гронкі гарачай рабіны.
Як пра мяне ім забыцца,
Як іх пад замець пакіну?

* * *

Заснежыць аднойчы
І дзень, і святое.
Зіма што захоча —
Надзенем мы тое.

Надарыцца лета —
Расквеціцца неба.
І мы разадзеты,
Як небу патрэбна.

Ўлюбёныя зоркі
Ў спакой прыдарожны.
Вясна на падворку,
Паўсюль
І — на кожным.

Бязлюдныя пляжы,
Няспешная восень.
Што неба падкажа,
Мы тое і носім.

Сцяжынкаю ходзім,
Між зораў лятаем.
Адзеты па модзе
Чароды над краем.

## ЗЯМЛЯ

Надвечар.
І смутак ягоны.
Часцей іх усё не стае.
Зялёныя вішні і клёны,
Зялёныя думкі твае.

Па небе, па словах, па целе,
Спадобіўшыся дажджам,
Пакуль успамін зелянее,
Зялёны і юны я сам.

І нават, як не распазнаю
Адценняў вясновых здаля,
Нястрымна харошыцца з намі
Зялёная наша зямля.

# КЛЁНІК І ЧАЛАВЕК

Думаў клёнік:
— Напачатку
Дабяруся да акна,
Да страхі.
А пойдзе гладка —
І да зоркі.
Вунь яна.

Восень-лета, восень-лета —
Перарос нямала зім.
Толькі думаў напаследак
Чалавек інакш зусім.

Бо, закінуўшы пры хаце
Ў крону позірк,
Думаў ён:
— А за гэтым мне не ўгнацца,
Пасаджу маленькі клён.

## АЛЮР

Менш і менш прычын прайсціся
Вольным пехам ля вады,
Як пад аркамі калісьці
Не спяшалі нікуды.

А каб нам яшчэ сустрэцца,
Трэба жыццяў утрая.
На адной дарозе — сэрца,
На другой — імклівы я.

То, пакуль марудзяць зімы,
У канверце ясным днём
Па куточачку радзімы
Мы ўзаемна адашлём.

Мітусні і глуму столькі,
Што ўжо думаюць за нас
Сенажаці, дрэвы, зоркі
І, здаецца, нават час.

## КВЕТКІ

Гэтыя — ад ранішняй зары,
Тыя поўднем нёманскім сагрэтыя.
З тымі, як са мной, загавары.
Ад вачэй тваіх —
Вось гэтыя.

А за шклом…
Там цёпла і смялей.
І нішто далёкае не сніцца ім.
Нібы фотаздымкі на стале,
Як не пахнуць громам, навальніцаю.

## РАНАК І ПТУШКІ

Прапішу вясною іх наноў
Пад акном
І ў думках светла-сініх.
Для крылатых юных пеюноў
Не шкада разбуджанай хвіліны.

Хай растуць са мною ва ўнісон,
Покуль спее смачная чарэшня,
Роцікам глынаючы на сон
Сонейка
Па кропельцы
Пацешна.

## МІЛАЯ ПРЫЧЫНА

Покуль зэльвенскіх паэтаў
Вершы цешыліся ўслед,
Разамлелым пышным летам
Мой імчаў веласіпед.

Без мяне ляцеў у далі
Цераз паэтычны дым
І ад птушак, што спявалі
Толькі-толькі што над ім.

І Пегасы праімчалі
Ў збруі лёгкае наўскок.
Коцяць Юркавы педалі
Колы з зэльвенскіх аблок.

Тут паганае адбыцца,
Не, не можа пад харэй,
Покуль чыстыя крыніцы
Да Зальвянкі вершаць рэй.

Пераблытаны паперы,
Промні, спіцы і…
Альбо
Пасміхаюцца Венеры
Нада мной
І над сабой.

## РАБІНА

Хоча вырвацца з акна
Белая рабіна.
З ветрам ветраным яна
Паляцець павінна.

Ды спакойная зямля
Ані на хвіліну,
Вецер чуючы здаля,
Кветку не пакіне.

А яна на добры знак
Ветру-сухавею
Засаромеецца так —
Аж заружавее.

* * *

Падабрэла ў лузе, зацвіло.
Шле насустрач дзень красу мне.
Каб не дрэвы —
Птушак не было б,
Каб не птушкі —
Дрэвам стала б сумна.

Мне б узгоркаў, долу пад нагой,
Каб з'явіцца вершам
І прапасці.
А без шчасця
Людзі для чаго,
Без людзей
Зямлі якое шчасце?

* * *

Майскі квет
Ляціць пад дождж.
Будні, святы.
За мяне пытае хтось —
Дзе ты,
Як ты?

Столькі выпадзе на двух
Адзіноты.
Узбунтуе раптам дух —
Хто я,
Хто ты?

Адказаць праўдзівей што б
Божай строме,
Як спытае час у лоб —
Як мы,
Хто мы?

## ВЯРГІНІ

Мы не жадалі заставацца
Пад сонцам тым,
На той зямлі,
Дзе думкі нашага юнацтва
Вяргіняй шчодраю цвілі.

Пяшчотнай кветкай любавацца
З табой прыходзілі здалёк.
Яна шторазз знікала шчасцем,
Нібы пад восень матылёк.

Пасадзім даўнюю вяргіню
Сярод гадоў,
Бліжэй да нас,
Каб добры час яе не згінуў,
Стракаты след яе
Не згас.

* * *

Прывітанне, Краскова маё,
І тваё, і яе, нават іхняе.
З маладосці б сюды салаўёў,
Шэрай рысі, што мірна мурлыкае.

Каб не выцвіла вечнасці ніць,
Пад дубамі наўкол — веліканамі
Будуць яшчаркі бегаць,
І плыць
Між лілей — вужаняты цікаўныя.

А праз час зацвіце сон-трава,
Заспявае, засвішча, задзінькае
Ля нябёс, дзе твая сінява,
І Краскова маё —
Аблачынкаю.

## ПАКУЛЬ

Ідзі,
Глядзі,
Пакуль свяціла
Спрыяе з вышыні табе.
Пакуль гняздо бусліха міла
Сабе, бы нам, вясной віе.

Глядзі на свет,
Як кропля,
Цэлы.
І беражы,
Як Бог бярог,
Зямлю, пакуль не паляцела
У вырай ластаўкай
З-пад ног.

## ПАЎТОРЫЦЦА

Яшчэ хвіліна,
Дзень яшчэ
Завецца месца гэта школай.
Астынуць вокны без вачэй
Заўжды гарэзлівых, вясёлых.

За сто гадоў —
Сто буквароў
І свежасць раніцаў і клёнаў.
Тут Бог, як мог,
Цара бярог,
Жыў Езус Хрыстус пахвалёны.

Ганебны землятрус які:
Партрэты Ньютана, Купалы,
Спазнаўшы слаўныя вякі,
Са сцен святых на дол упалі.

І дзень,
І лёс,
І іпастась,
Як супакой у думках стане,
Няўжо паўторыцца без нас,
Каб нам прысніцца на світанні?

# Час
# дзянніцы

*Усё па-іншаму даўно,*
*Надзеі нашай апрача.*

# КРЫЛЫ

Пралятае жыццё
Птушкай-znічкай
У акне, прад якім пастаю.
А гадоў маладых
Пераклічка
Жаўруком грэе думку маю.

Пад ясноты, пад дождж суцяшальны
Адлятаю насустрач табе.
Станьце, крылы,
Дужэй у тумане,
Не стаміцеся ў ціхай журбе.

Наганіце вы хмар,
А наранку
Сонца вызваліце,
Каб плыло.
Будуць гнёзды маніць абаранкам
Нас туды, дзе любоў і святло.

## БОРЦЬ

Не спыніш часу,
Хоць
Ляцеў ён ці ішоў.
І падупала борць
Ад ветру і дажджоў.

Для задушэўных свят
Хавала дзікі мёд.
Быў касалапы рад
Прысніць яе штогод.

Патрэскалася ўшчэнт.
Ды сёння крыльцаў рой
Дамоў менталітэт
Вярнуў зямлі маёй.

## ЛЯ КАМЕНКІ

Аўсы пакруціла прад Каменкай так —
Ні воку, ні коням не раю.
Па схіле нябёс старажытны бальшак
Павёў у мінуўшчыну краю.

Там шведскі кароль з-пад рукі пакрысе
Крадзе насцярожаны Нёман.
І гнеў барадаты па лесе асеў,
Адчаем і помстаю повен.

Якія дзяўчаты пад хусткаю там!
Адна прад адной — каралевы.
Навошта Смаленск і навошта Масква —
Алёны і справа, і злева.

На Поўнач далёкую хоць забяры
З пакосаў, жытоў шматгалосых,
Каб не зыркавокія ў пушчах зубры
І каб не кусучыя восы.

А з неба сыходзяць аблок жаўлакі
На Нёман сярдзіты і хмуры.
Тут словы Стральцы, Касцянёва, Грамкі
Пускаюць мурашкі па скуры.

Ад Галавічполя і ад Астрыны
Вяроўка на шыі тужэе.
Кароль халадзее:

Тут жахі адны,
Аўсоў адцураліся жнеі.

Прысніцца палац па-над белым ільдом,
Уздрыгнуць свінцовыя вейкі.
Кароль зажадае з буслiным гняздом
Тады перамір’я навекі.

Над Каменкай — сонца.
Пры Нёмане — мы.
Кароль — за гадамі, за морам.
Улягуцца ў сны маладыя грамы,
Аўсы пападымуцца ўгору.

## Я І СІНІЦА

Яшчэ снягі не слепяць у адно
І маразы не думаюць аб вечным.
Чаму ж сінічка білася ў акно
Сягоння,
Як паўзмрок асеў на плечы?

Ці шкодны кот,
Ці хцівая сава
Даймалі птушку ў вечаровай цішы.
А я куточка ёй пашкадаваў,
Разумна на прыволле адпусціўшы.

Наперадзе святліца ў сто снягоў,
Над ёю — непазведаныя высі.
Выразны след ад прашчура майго
Кіпцюрыкам за раму зачапіўся.

Калі вачыма кінуўся наўсцяж —
Ні пёрка
І ні песні ранак цэлы.
Сама спусцілася да рук,
Сама ж
Сініца таямніцай адляцела.

* * *

Верша не склаў —
Нібы сонечны дом
Не збудаваў на высокім пагорку.
Ці гэты край
Не аздобіў кустом
Позняй каліны
І церпкай, і горкай.

Спевам сініца прыспела найперш,
І падказала самотнае люстра:
— Час у дарозе,
І гэта твой верш.
Выйдзі, як колісь,
Шчаслівы, насустрач.

Стане спакойна і мне, і зямлі,
Будзе высокім нябёсам не пуста,
Слова ўсміхнецца аднойчы калі
З цёплых, даверлівых вуснаў.

* * *

У кубку ночы
Муць асядзе
На дно
І рэўнасці, і здрады.
І стане дзень у белым садзе.
Я буду рад,
Што ты так рада.

І — першы снег,
Чаканне ёлкі,
І галасы хвілінай кожнай.
Мы не змяніліся нікольки
Ад першай зоркі
Да апошняй.

* * *

Дзе зямлю вясна кружыла,
Дзе ваш сон,
Дзе добры ён,
Падрасту вышэй акон
З-пад узрушаных сняжынак.

Па рухлівай зыркай волі
Юнаком сюды прыбег.
Не бывае першы снег
Надакучлівым ніколі.

## ДВА КРЫЛЫ

Сакавік пашкліў зіму.
Непрытульна, гола нам.
Адзінока нам таму,
Што вясною холадна.

Раскажы мне, як абшар
Рэчку абязбольвае,
Як ты думкі суцяшаць
У расстанні здольная.

Два крылы ёсць у зямлі —
Яснае і хмельнае:
Ноч — мы грэшныя калі,
Дзень —
Як нас адбельвае.

## АЙЧЫНА

Страсянуся грываю з туману —
Добры, даўні знак.
Абляцяць сумненні і падманы.
А Айчына як?

Выплыву з глыбінь крывіцкай пушчы
На тугі бальшак.
Вочы пад цямно на міг заплюшчу.
А Радзіма як?

Зачыніцца на засовы можна,
Як музейны гляк.
Дыхаю натужна і трывожна.
А Радзіма як?

Можна дзень забыць з гадамі,
Што хлуснёй набрак.
Будзе ўсё, як ёсць, між намі.
А Айчына як?

## ГАДЫ

З-пад воблакаў нізкіх арліных
Па кроплі цяпло прыцякло.
Між роўных шнурочкаў ялінак
Тут ходзіце Вы і святло.

Ніколі туды не збяруся
Па небе, па свежай раллі,
Дзе доўга на мокрым абрусе
Ў чаканні лісічкі цвілі.

Грамы за гарою трывалі,
Пакуль мы знахарылі ўсмак.
Лясамі
Гады паўставалі
Прытульна
І вусцішна
Так.

## НОВАЯ КНІГА

Раўніны і лагчыны,
І майская вячэра.
Адзіная прычына
Пабачыць Мінск яшчэ раз.

Як з пажыццёвай дачы,
Дзе журавы і гусі,
Паеду свет пабачыць,
Якім так ганаруся.

Пад сонныя вагоны
Падстрояцца аблокі.
Я, прадчування поўны,
Маўклівы і высокі.

Гаючы пройдзе лівень
На нас, на горад звонкі.
Кіўнеце мне калі вы —
Перагарну старонку.

## АЛЕ

Пасля васьмі я буду дома,
Прыходзь і ты каля васьмі.
З табой адолеем мы стому,
Паразумнеем разам мы.

Не пашкадуем мовіць слова
Дзеля высокіх, стройных тэм
І нават, можа быць, нанова
Пасля васьмі жыццё пачнем.

Няхай падзівяцца з нас людзі,
Мы самі здзівімся з саміх,
Як на зямлі залежаць будзе
Ад нас усё
Пасля васьмі.

Сляды лічу твае прароча
Ля брамкі ціхае,
Але
Прагледзела сама ты вочы
Да летняй ночы.
І далей…

## МЕСЦА-ГРАД

Яшчэ мне міг адзін адпушчаны
Там, дзе сталеюць сосны строма.
Знайшлася вёска сярод Шчучына,
Каб браць грыбы з аэрадрома.

Жыве тут руская гісторыя
Па агародах і мансардах.
Я сам сяную на Суворава,
А на Чапаева — мой сябра.

З-за вільчыка
Ці з соннай далечы
Наступіць дзень.
А хтосьці з ночы,
У бок Еўропы пралятаючы,
Мне светлячком пабыць захоча.

І покуль вішня наліваецца
На новым месцы,
Месцы-градзе,
За вечары,
За нашы раніцы
Пад ёй, пунсоваю,
Прысядзем.

## ПЕРАД СУСТРЭЧАЙ

Блакітны час,
Настрой зялёны
Дарогу спрошчваюць маю.
Туды, сюды вязуць мільёны,
А я на ростанях стаю.

Пад Мінскам горы і даліны
І Вязынкі салодкі боль.
Яшчэ хвіліна, паўхвіліны —
І мы сустрэнемся з табой.

Ты, Котра,
З вокладкі насвежа
Пральешся юнай навіной
Па Прынямонні,
Белавежы
Пад нераст свой,
Пад роздум мой.

* * *

Сягоння маўчання гара
Вышэй за нябесныя кроны.
Паўсюль скрыжаванні гараць
Чырвоным,
Занадта чырвоным.

Аўтобус, нібы тарантас.
Шафёру паверыцца ў гэта.
Пакліча да веснічкаў нас
Пара,
Як закоціцца лета.

Дарэмна начэй не трывож,
Бо, пэўна, сягоння прысніцца:
Сталічны катаецца дождж
З гары да падножжа крыніцы.

## САМ САБЕ

Астрай ля ног разадзета,
Небам застрожана сінім
Шасцідзясятае лета
Лёгкае мне на ўспаміне.

Словаў, паглядаў занадта —
Аж цераз край пераліць бы.
Хоць бы забыла адна ты
Гэтую смешную лічбу.

## НА ГАННУ

Блукаюць думкі ў свеце дзе,
Назад самотныя прыходзяць.
І хутка стане Ганны дзень —
Так звалі маці ў тым стагоддзі.

Пад восень лета пры стале
Асядзе ў маміным прыполе.
А не даклічашся яе
Самой цяпер ужо ніколі.

Як неба — з хмар,
Так я — з трывог
У іншых снах,
У іншым часе.
Прасіла ўсё,
Каб Бог бярог
Усіх.
Сама ж не ўбераглася.

* * *

Ціхімі, ветлымі, гулкімі,
Добрымі, злымі калі
Людзі, спавітыя думкамі,
Спяць на краёчку зямлі.

## РАДЗІМА

Далёка яна, нібы зорка.
Па энцыклапедыі быццам,
Вычытваю твары, пагоркі,
Каменьчыкі ў цёплай крыніцы.

Паблякла радзіма, ацiхла
І божую кнігу адкрыла.
Як цёплая тая бусліха,
Выседжвае дзень белакрылы.

Напэўна, што зоркай над полем
Яна запынілася ў часе,
Каб я не дайшоў аніколі
І толькі здалёк любаваўся.

## ПЕРШАСНЕГ

Не вытрываў некалькі дзён
Ён да каляндарнай зімы.
Захмелены,
Плыў ля акон.
Дзівіліся птушкі і мы.

А потым прылёг ля варот,
І шлях навакол прасвятлеў.
Сняжынак жаданы прылёт,
Загадкавы покліч на шкле.

## ЯШЧЭ

Там распаўнелая рака
За небакрай лінуць гатова.
Ужо не дзень,
Што нас спаткаў,
Яшчэ не ноч,
Што нам — ахова.

Яшчэ па скверы пахаджу —
Па непрытульнае Еўропе.
Чытаю кропелькі дажджу.
Не тое,
Што тваё шматкроп’е…

## МЕСЯЦ

Так, відаць, і не запомню
Месяц дзе,
Калі ў руку.
То блінцом мінае поўным,
То прыфрэнчаны крыху.

Як любілі вербу з вязам
І калядныя грыбы,
Ты не памятаеш часам,
Чым заняты хлопец быў?

Пэўна, думаў шмат і марыў
Высніць з кімсьці надалей
Верш пуцаты, паўнатвары
Пры загадкавым святле.

Ну, а месяц на світанні
Не прызнаецца
Альбо,
Як паблякне і растане
Перад юнаю табой.

## ПОТЫМ

Нібыта санкі з пагорка,
Нашы — твае і мае —
Дзве паралельныя зоркі
Коцяцца,
Покуль стае
Ціхай бязвоблачнай ночы,
Покуль свавольнічаў час…
Потым —
Ні санкаў прарочых,
Ні зачараваных зоркаў,
Ні нас.

* * *

Нібы восень,
Сумны, шэры
Станаўлюся для гасцей,
Калі рыфмай і памерам
Заклапочаны часцей.

Страпянуцца і алоўку
Трэба, колькі ні пішы,
Калі восень прыйдзе лоўка
З боку волі і душы,

І ляцець, ляцець за дзверы,
Каб для выевераных нас
З шапатліваю паперай
Танцаваць амурны вальс.

* * *

Як знікне ночы злое футра,
Пры дні расправіцца лілея,
Прыходзь яшчэ,
Сядай насупраць.
Я на вачах павесялею.

Не гавары, не клапаціся
Пра блізкі свет і свет далёкі.
Па-над акном узыдуць высі,
Усю цябе каб бачыць толькі.

Ты ж, памаліўшыся на люстра,
Зачараваўшы сваё цела,
Прыходзь яшчэ,
Сядай насупраць,
Як першы раз тады сядзела.

Калі я спаў,
Каб не прапасці,
На сотні сноў замкнёны тайна,
Яшчэ не ведаючы шчасця,
І ні тугі,
І ні спаткання.

## САКАВІК

Сцякалі фрэскі зімаў рэзкіх
З акон без слоў і варажбы.
Як называюцца пралескі,
Пад сінь нябесную забыў.

Буслы пыталіся прыстанку,
Як снег апошні ў ценю чах.
Паўсюль пагляды-прывітанкі
Не сунімаліся ў вачах.

Цябе адну паўсюль шукалі
Світанкі, затаіўшы дых,
Каб ахінуць пунсовым шалем
Без шанцу паўтарыць для ўсіх.

## ВЕРШЫ

Вершаў на дзень і прад сном,
Нібы высокага дрэва
Пад адзінокім акном,
Болей не трэба, не трэба.

Хопіць зары аднаму.
Верш прачытаць на прыволлі
Не давядзецца каму,
А палюбіць — і тым болей.

Не правакуй маладосць,
Клятвы пакуль не парушыў.
Вершы жывуць, покуль ёсць
Метафарычныя душы.

І намахаўся з пляча
Ў дзень маладзы кучаравы.
Мне б навучыцца маўчаць,
Як прад грымотамі травы.

## ВЕЧНАЕ СЛОВА

Да стваloў і галінак вясновых
Закаханы зацішак прытуліцца.
Толькі я мітусіцца гатовы
Па дарогах, палях і па вуліцы.

А як сціхне ўначы страляніна
Набрынялых пупышак бярозавых,
Супакоюся хоць сем’янінам,
Каб заняцца спрадвечнаю прозаю.

Зацвітуць самасейкі нанова
Па слядах вербалозу і вербніцы.
Хтосьці выпусціць вечнае слова
З нас
Аднойчы павінен асмеліцца.

* * *

А мне патрэбна стрыжка веснавая,
Калі за так і велічна, і годна
Мой кожны крок мяцеліцу трывае
На пальчыках пад лёгкі подых поўдня.

Яшчэ мне дзікі далягляд патрэбен
З блакітнымі паглядамі любові
Для вызвалення дрэваў, водаў, неба
Ад доўгага маўчання.
Для абновы.

Яшчэ патрэбен дзень бясконцы, вечны
Для веснавых агледзінаў радзімы,
Каб мы маглі пралескам пры сустрэчы
Прыпомніцца аднойчы маладымі.

## МАЛЕНЬКІ ЭКСПРОМТ

Белы баль пухавіка
Асядае з ночай.
Туманы сакавіка
Дыхаюць прарочa.

Самалёт ля ног прыснуў
Перад небам скорым.
Адзінокую вясну
Акальцуе горад.

## ПРОСЬБА

А напаследак
Ва ўнісон
Сакавіку і флёксам ранні
Мяне, асенняга, як сон,
Пісаць прасілі пра каханне.

Ужо ў святле сваволіў клён
І ноч душы шаптала штосьці —
Што ім забыты тэлефон
І твой,
І мой,
І маладосці.

## НАЧНОЕ

Заснуць.
Нягледзячы на тое,
Што лужы пасярод зімы.
І што забылі пра святое
Ўсяго за гэту восень мы.

Ніхто не думаў схамянуцца,
Свабоду бэсцілі калі.
Хоць так захочацца вярнуцца
На прыдарожныя палі.

Яшчэ прыпомніце калі вы,
Як несуцешна вечар гас.
І, можа, кроплі веснавыя
Падлічаць да сустрэчы час.

А засмяецца хто
Ці здасца,
Што памятае тое хтось,
І ваша «добры дзень» ці «здрасце»
Паверне дзень на маладосць.

## СВЯТА

Покуль шчасце
Песняй стала
Пад вярбінай ніцай,
Першай, чуў я, заспявала
Для цябе сініца.

Аж з-пад Росі
Спеўна, гожа
Да Зальвянкі, Зэльвы
Я па светлай ночы божай
Красавік падбельваў.

Вербалозу вачаняты
Здзіўлены табою.
Будуць жоравы заняты
Маладым двубоем.

Што натомлена прысяду,
Ты не вінавата.
У вачэй і далягляду —
Свята,
Свята,
Свята.

## ВАВЁРКА

Суцэльная па лесе цішыня.
Ні кнігаўка, ні дрозд, ні журавы.
Баравіка ніхто з-пад елкі не падняў,
Не стрэліся, спалоханыя, вы.

Як назаўжды, застыла ўсё, але
Чуваць, як з глыбіні нястомны час
Цячэ, бруіцца ўгору па ствале,
Забыўшыся дарогаю пра нас.

Дуб на гары ніколькі не зачах.
Чаго ж я тут,
Як выбраны ліміт?
Хіба, каб не пазнаўшы па вачах
Мяне,
Вавёрка шмыгнула ў блакіт.

## НОЧ. НАВАЛЬНІЦА

Одум пад вейкамі тоячы
Велічных аблачынаў,
Бліскае неба апоўначы,
Чорнымі паліць вачыма.

З цемені вогненна-белымі
Аж з-пад маёй маладосці
Высі выводзілі стрэламі,
Вечнае пішучы штосьці.

Цемра на гневе настоена.
Парка.
Трывожна і душна.
Слухае неба, як стоена
Дыхаюць людзі ў падушку.

# ВЫЛЕТ

На небасхіле — лесу невад,
Аблокі ў сонца пад канвоем.
Прыпомніць шчучынскае неба
Сваё юнацтва грамавое.

Паміж жытоў разбег кароткі,
Згараюць у мангале дровы.
Слязой паблісківаюць на зоркі
Былыя асы дзён суровых.

На далані аэрадрома
Камусьці выпадзе папраўдзе,
Рукі крануўшыся знаёмай,
Крыло нябеснае пагладзіць.

Планёру сняцца зноўку далі,
І капітану — вылет гэткі,
Што самалёты прыўздымалі
Пяшчотным раніцам павекі.

# ГОЛАС

Стаміўся горад.
Раўнадушны
Пагляд,
Апушчаныя плечы
Двухскатных стрэхаў
Па-над грушай.
Спакой яе я песціць мушу,
Бо задуменная аб нечым.

І нават голас твой прарочы
На схіле дня
Пад крыкі кані
Перахапіў Амур аднойчы.
Ці ён з маёй дарогі збочыў
У свет бясконцага чакання?

## Я ТУТ ДАЎНАВАТА НЕ БЫЎ…

Я тут даўнавата не быў —
Куток набрыняў новай сілай:
Пасунулі дрэвы ў нябыт,
На месцы іх дом пасадзілі.

Тут жыў у спякоту цянёк
Для жэўжыкаў нас і дарослых.
Тут я, абнадзееныя, мок —
Вясёлы, шчаслівы, узнёслы.

І, пэўна, задоўга не быў,
Каб выпала проста вяртацца:
Пассоўвалі дрэвы ў нябыт,
Здаецца, што разам з юнацтвам.

* * *

Прыбуду шляхамі апальнымі,
Па просеках нібыта мінных.
Тут цёпла ад кленаў запаленых,
Ад ціхіх, як ты, успамінаў.

Тут памяці,
Злёгку прыталенай,
Маўчаць той юнацкай бярозкай.
...Азвацца зялёнай праталінай
Не дадзена восені роснай.

## АДЗІНОКІ ЖУРАВЕЛЬ

Там падушку аблачынкай
Нашу ветрык прыпадняў.
Сок бярозавы з гарчынкай
Ставіш да Вялікадня.

Сноў пазбавілася неба,
І снягоў сышла пара.
Стала думкам непатрэбнай
Міласэрнасці сястра.

Што каханне песняй стала,
Не хвалі, не дакарай.
Аднаго крыла замала,
Каб ляцець за небакрай.

Над табой зямлі аблічча
Зменіць птушак дзікі хмель.
Зноў радкі мае пакліча
Адзінокі журавель.

# ЧАС ДЗЯННІЦЫ

Па-над Котраю і Нёмнам цэлым,
Між далінаў, лесу і людзей
Птушка чарадзейная ляцела,
Крыламі махаючы часцей.

Неслі крылы водару напіцца
Сэрцу і вачам,
Зямлі маёй.
Што ні ўзмах,
То светлыя дзянніцы
Неба асвятлялі над зямлёй.

Простыя славянскія імёны
Гаварылі мовай дабрыні.
Быў юнак у далеч улюбёны,
А яна — зачаравана ім.

Каля вежы сядзе, на паляне,
Узляціць над паплаўком гадоў.
Птушкі ёсць, што выраем не зманіш.
Родны край —
Ім неба і гняздо.

Птушка бачыць, чуць
І помніць будзе,
Покуль кожны з нас радзіму сніць,
Бо аднойчы пушчаная ў людзі
Свежасцю і нерушам дзянніц.

* * *

Супакоілася зараз
У вачах тваіх зіма.
Перашыйкам тратуара
Ты прыйшла сюды сама.

Не глядзела,
Гаварыла
Перад светам, прада мной.
А яшчэ балела крылле
Паміж небам і зямлёй.

Перашыйкам тратуара
Тут канчаецца зямля.
Са сваёй кірпатай марай
Застаюся ў пары я.

## НОЧ НА РАДЗІМЕ

Ілбом да шыбіны прынік
І, супыніўшы хуткі час,
Нядрэмны, сквапны вартаўнік
Пільнуе зоркі, думкі,
Нас.

Глыбокай восенню не спіш,
Мяне чакаючы
Ці дня.
І, склаўшы крылле, дрэмле мыш.
Я тут адзін
І цішыня.

Іначай свеціцца акно,
Маўчаць лясы,
Гучыць імя —
Усё па-іншаму даўно,
Надзеі нашай акрамя.

Заезджаныя пры жыцці
Шляхі-дарогі дзесьці там.
А вузкай сцежкай не прайсці
З-за неспакойных думкаў
Нам.

## ЗАСНЕЖАНАЕ ПРАДЧУВАННЕ

Халаднаватаю прымаю
Па-над жаданнем ляцела
Гэта вясна снегірыная,
Чырванагрудая
Ў белым.

Будзе ж і ночка кароценькай,
І насцярожанасць кане.
Выльюцца веснія кропелькі
Ў крокі
Насустрач спатканню.

* * *

На світанні
Зусім маладым
Для сябе і для вас нечакана
Прыпазніўся паэтам сюды,
Ў край,
Вясною пазарыфмаваны.

Васільковы сюжэт на стале
І застылы навек,
І сыпучы.
Крок адзіны да ўсмешкі,
Але
За гадамі —
Прыснежаны Шчучын.

## ГАРАДОК

На фотаздымку пажаўцелым —
Шматзадуменныя дамы.
Якім грамам маліцца мелі
Дубы тутэйшыя
І мы?

А на аэрадроме — коні
І першародная зіма.
Ля вежы думнае
Спакойна
Чакаць і верыць дапазна.

На белых крыллях высакосны
За Нёман вольна паміне.
Даўно пахіленыя сосны
Чакаюць ля вады мяне.

Не верыцца, што рэактыўна
Штурхала гэты гарадок
На поўнач.
І шаптала ты мне,
Як небяспечна я прамок.

## ПЕРАД РАЗВІТАННЕМ

Я — цень ужо цяпер няйначай,
Хоць да святла — сонцазварот.
Праз год мяне тут не пабачаць,
Забудуць тут мяне праз год.

Нястрымным стане свет і строгім,
Як струны думкай ні крані.
Прыспеюць іншыя дарогі,
І, можа, нават без маны.

Без мітусні пад поўдзень стромы —
Хоць пакрывіць душой паспеў —
Няхай з маланкаю і громам,
Але праўдзівыя,
Як спеў.

Ляцяць прыветлівыя гусі,
Вачэй кранаючыся ледзь.
А можа, я і сам вярнуся,
Каб сярод лета
Пагрымець.

## ВЯСНОВЫ ЗРУХ

Паскарэнне дарог мурашынае
Са стагоддзя ў стагоддзе вялося.
І зрываюцца думкі за шынамі,
За маланкамі па-над калоссем.

І сцюдзёная, і пякучая,
Як хвароба,
Зіма адпусціла.
Навакол прыдарожнага Шчучына
Моц зямлі ажывае
І сіла.

## ПАД СПЕЛАСЦЬ СЛІВЫ

З вэлюму рухавай аблачыны
Першацвет кружыў, то першаснег.
Мы стаялі з юнымі вачыма,
Як спыняўся час,
То znічкай бег.

Крыху прытуманена-раскосы
З павалочкай ростані пагляд
То ляцеў імкліва пад нябёсы,
То вяртаўся свежасцю назад.

Ах, як хочацца пад спеласць слівы
І антонаўкі,
Пад шчодры каравай
Стаць такой узвышана-шчаслівай,
Каб ніхто і ў твар не пазнаваў.

За руку трымала моцна шчасце,
Вечнасцю пасланае табе,
Каб яму ніколі не прапасці
Ў думках ці ў здарожанай журбе.

Дзе надзей і спадзяванняў поўна,
Дзе грыбніца спеліцца цяпер,
Думная, спакойная Алёна
Свеціцца загадкаю Венер.

## РАЗМОВА З ВАДОЙ

Забыўшыся на дні і вуліцы,
Прыпомняць хлопцы нацвяроза —
У люстры Свіслачы цалуюцца
Наш дуб і польская бяроза.

Згарэў запал сасновай свечкаю,
Пакуль адзін другога слухаў.
І цішыня ўзышла спрадвечная
Па зубраняці мяккім пухам.

Са сціплай Свіслачы любоў сваю
Слаў чалавек да нас на крызе.
Ён не страляў у птушку боскую
І Каліноўскім ганарыўся.

Не пажывіўся ў пушчы донкамі,
Любіў, каб сонца ў хвалях толькі.
Змывай, вада, на дно глыбокае
Смугу вачэй,
Душы затокі.

## А НАЗАЎТРА

Птушкі паляцелі.
І батон
Не патрэбен болей, і ні сала.
Быў мароз,
Вучыў крылатых ён
Спадзявацца на мяне нямала.

Край паўночны
Паўкрыла занёс
Над радзімай сцішанай, над намі.
Звонка, свежа, цёпла
Пад мароз
Голас твой мяне прыпамінае.

Будуць, будуць зноўку нездарма
Гнёзды ў кронах,
Прамяні за партай.
Адстаіць над Нёманам зіма,
І жыццё канчаецца не заўтра.

## ЖАДАННЕ

Хачу патрэбным стаць дарозе,
Каб адзінокай не жыла,
І — мулкай прозе на парозе,
Што завітала да стала.

Каб сумавала зорка ў высях,
Хачу, — без зграбнага мяне.
Дажджынкі светлыя ліліся
Каб па шчацэ і па вясне.

Табе патрэбным быць уранні,
Спазнаўшы неба і зямлю,
Як мне патрэбнае дыханне,
Калі цярплю,
Калі люблю.

Прыйшло жаданне ціхім словам,
Вачыма вернымі ў акне.
Не ўпершыню прыйшло,
Не новым.
Але маё
І да мяне.

# Сонечны брод

Паэма

*Маёй маці*

Я сваё жыццё перажыву…
*Рыгор Барадулін*

## Першая частка

1

Пасля таго, як векапомна
Ён на прасцяг выводзіў гаць
Прад маці —
Променьчык да промня —
Нам толькі выпала чытаць.
Сярод хацінаў бедных мноства
Нібы адзін стаяў там дом,

Адна была такая вёска,
Дзе плыў Ушачы крыгалом
Далей за вёсачкі-блізняты,
За жураўля, за шчыльны тын…
Ні перад кім не вінаваты,
Адзін з усіх удаўся сын,
Каб дакрануцца светлай кніжкі,
У полі вольным пасучы,
Палоніць думкай свет няблізкі
І родны край,
Стаяў на чым.
Такі пачатак свежым росам,
Паэме, можа,
Новым дням.
Сказаў астатняе, падросшы
І пакланіўшыся, ён сам.

2

Усходзіць сонца,
Блякне поўня.
І кніжка волі не дае.
А маці моўчкі
Помніць помню.
Як расказаць мне пра яе?
Калі дарог зямных замала
Навокал стала ёй даўно,
Нічога болей не сказала,
Тугім накрыўшыся радном.
Каб мы дадумалі, напэўна,
І за сябе, і за яе,

Як час праносіцца імгненна
І як нам долі не стае.
Як учарашнімі пастанем,
Ніжэй травы,
Цішэй вады.
І толькі птушак галасамі
З нябёс аклікнемся тады.
Яшчэ жывуць у лузе росы
І аклікаецца абшар.
Яна ж смяецца безгалоса
Заўжды насупраць,
Твар у твар.

3

Чамусьці думкі, нават словы,
Нібы забытыя раней,
Твае вяртаюцца нанова
Ў запале дзён
І пры акне.
То апалячаныя часам,
То напрасткі ад родных ніў.
Жылі-былі мы з імі разам.
Хто нарадзіў іх,
Хто прысніў?
Падчас сумніву і разладу
Выратавальна,
Нібы круг
Нябесны сонца,
Побач сядзе,
Якраз дарэчы, у пару.

Было тых слоў як кот наплакаў.
Іх чулі я і сенажаць.
Маўчалі слоўнікі.
Ніякай
Дасюль падмогі не чуваць.
А слова джаліць,
Слова раніць,
То — незачэпа-матылёк.
Пакіну што, каму на памяць,
Каб павярталася здалёк?

4

Глядзіш у кнігу,
Як у вочы,
Маўчыш паглядам.
І з двара
Тады прад ім радок захоча
Ляцець увысь, за небакрай.
За ім да зораў круг за кругам
Мая падымецца зямля.
Малітва будзе,
І папруга,
І міжусобіца свая.
Пагляд з вясною маладзее,
І не нацешыцца пагляд,
Калі сустрэну шчасце дзе я
І зараніцы буду рад.
Баюся смутку ў вольнай працы
Таму, напэўна, кожны раз,

Каб выпадкова не спаткацца
Слязой няпрошанай падчас.
Глядзіш у кнігу.
Пераводзіш
Пагляд вячысты на мяне.
Так не адно яшчэ стагоддзе
Над намі згадкай праміне.

5

З разгойданай пад столь калыскі
Цягнуся немаўлём да рук.
А лёд каварны, гладка-слізкі,
Танюткі ў снежную пару.
Таго цяпла ніяк не ўспомніць
Да ласкі дзікаваты сын.
Галактыкі сляпыя промні
Ніжы па памяці адзін.
Яны ж для кветак і для мяты
Зямлю трымалі пад сабой.
А потым сонца неслі ў хату,
Крынічнай вымыўшы вадой.
І танцавалі ранкам нават
Нам пад гарачыя бліны.
Злівалі з белай пенкай славу
Камусьці ў вёдры век яны.
Як зведаў рукі тыя мала,
Што скрозь адводзілі грамы.
Ты ад эстэтаў іх хавала,
Калі з іх бралі хлеб яны.

## Другая частка

1

Усё змянілася —
Улонне,
Вятры, туманы і святло.
І мне да Нёмана сягоння,
Як нам да Віліі было.
Рыбалка ў прыбярэжным дыме,
Не есца думнаму каню.
Так хутка летамі сваімі
Цябе, напэўна, даганю.
А самалёты падабенствам
На птушак з даўняга жыцця,
Як калісь над тваім маленствам,
Над Украінаю ляцяць.
Тут дзеляць людзі, як дзялілі,
Зямлю, і акіян, і хлеб.
Табе б — птушыных пераліваў,
І словаў-абярэгаў — мне б.
Табе б — хоць вестачку пра сына,
А мне б — пра маці цёплы верш.
І дзеляць людзі ў небе сінім,
А што — навек не разбярэш.

2

Аэрадром.
Усходзіць бульба.
Над думкай сонца паўстае.

О, як глядзелі б вочы люба
На кветкі белыя яе!
Цяпер цвіце ружовым, сінім
Да імянін, што будзяць дых.
На берагах маёй Радзімы —
Нязводны цвет вякоў сівых.
Даўно саспела
І паспела
Падумаць пра вясну наноў.
Сама ўчарнела дзеля белых
Вясёлых выскачкаў-храсткоў.
Яна не мела б добрай долі
І мы б не зведалі зямлі,
Каб рукі ў час не апалолі,
На стол пад смак не падалі.
Былі ўсе дома, і, вядома,
Вісела дзяга на пліце…
Няма даўно аэрадрома,
А бульба маміна цвіце.

3

Засіверыла штосьці шчасце.
І думкі стрэмкамі свае —
Чаму заступнікам так часта
Быць у Айчыны Бог дае.
Шукаем брод у роднай рэчцы,
Як ахілесаву пяту.
Хто ў вір стрывожаны ўваб'ецца,
Хто пасміхнецца на ляту.

Мне б журавін з Літвы напіцца,
Прыдзвінскай прахалоды мне б.
А дзесьці кніжныя паліцы
За шклом застылі,
Як на дне.
Тады з надзеяй, маладая,
Ты запытаешся здаля:
Ці не патрэбна кніжка тая,
Што на гарышчы я знайшла?
Чаму ж пры светлым пакаленні
Зачаўся вобраз і ажыў —
Скарына моўчкі, задуменна
Дадому едзе з-за мяжы?

4

З-пад Астраўца
Пад вокам пільным
Манашкаю не дзеля зла
Па старажытных вулках Вільні
Да Бога сына давяла.
Святая Ганна паглядзела
На Ганну ў зрэб'і,
На мяне.
Над Вострабрамаю надзея
І нада мной не праміне.
З-за небыцця і верасхілу,
Як лёд на ростанях сышоў,
Вяртаўся Ён,
Як ты прасіла,

Каб жыць між родных берагоў.
І тыя ж рукі, тыя ж вочы
Сялілі ў дом абраз святы.
А потым вобразам прарочa
Ў маім акне ўзышла і ты.
Прымала дзён-блізнятаў роды,
Прывольна думалася ўслых.
І засталася назаўсёды,
На дол прыўкленчыўшы за ўсіх.

5

Як запыняўся зораў поўны
Нябесны кош ускрай зямлі,
Тваё ружовыя півоні
На выспе чэрвеня цвілі.
І лагаднелі пад усмешку
Яны світальную тваю.
А пахнуць памяццю няспешна,
Нібы ля веснічкаў стаю.
Чакаю сёмухі-нядзелі,
Калі, збудзіўшы даль і слых,
Папеўкі спеўныя падзеліш,
Як лусты роўныя,
На ўсіх.
А бацька велічна паўторыць
Пра белагрывага каня,
Пра ручнікі,
І раз каторы —
Усім, хто чарку не прыняў.

Не мне пускаць красу багіні
Да векапомнага стала.
Няхай хоць час той не загіне,
Дзе ты шчасліваю была.

6

Ужо чарэшня ружавее,
Сад заірдзее нарасхліст.
І апускае ціха веі
На слаўны Рэйн
Прэм’ер-міністр.
Там марыць правіць цэлым светам,
Нібы ад Бога, пан адзін.
Там пад рукою прэзідэнта
Напаўраздзеты сонцам Крым.
Каму радком пакінем словы,
Куды нас сцежкі прывялі,
Як што ні розум, то нанова
Абрысы клаліся зямлі.
Каб не прыйсці сюды зарана
І не спазніцца з даўніны,
Асядуць вецер, пыл, туманы,
А страх — заўсёды ў вышыні.
Святая сіла гравітацый,
Паўсюль яна
І — дзе-нідзе.
А нам бы ўспомніць павітацца
І ў вочы цёпла паглядзець.

7

Фантана маладога пырскі,
Каб, пэўна, я яшчэ падрос,
Напамінаюць час няблізкі
Расінак, радасці і слёз.
Няўзнак шчасліўчыка сустрэну.
Як абярэг,
Руку падам
За тое, што прыйшоў на змену
Маёй любові і гадам.
Пабег, удачлівы і ранні,
Да зораў,
Хоць зайздросціць стань.
А мы з табой давай прысядзем
Пад сам вясёлкавы фантан.
Ты іх не бачыла, здаецца,
Ані пры мне, ні маладой.
Заўжды паіла думкі, сэрца
Жывой крынічнаю вадой.
Казалі людзі, паспытаўшы
Начэй і светлы далягляд:
Увачавідкі ў краі нашым
Крыніц паменшала нашмат.

## Трэцяя частка

### 1

Як вы там маецеся з бацькам,
Што не чутно і не відно?
А ў нас танцуюць заліхвацка
І не закусваюць віно.
На скрыжаваннях інтэрнэту,
І душ людскіх, і аблачын
Умомант вызначыш мяне ты.
Скажы, цябе пазнаць па чым?
Тут над бяздонніцаю,
Памяць,
І прад спакусай зведаць рай,
Калі да роспачы дастануць,
Мой цень пагоркамі трымай.
Ты ж можаш,
Памяць,
Апантана
Жывіць Радзіму праз гады.
Я — твой слуга,
Твой раб, падданы.
Як ты са мной — я пан тады.
Закружаць неба снег і гусі,
Маю сівую галаву.
Я ж як умею,
Так малюся,
Люблю,

Кахаю,
Так жыву.

2

Са мною, румзам, жыта жала.
Быў хлеб заўжды ў сваёй цане.
Спявала светла і нямала
Пра тое, стомленая, мне.
Плыў з печы хлеб.
І, можа, рангам
Вышэй сялянскага стала
Яшчэ віленская Паланга
Да свята рочнага была.
Хлеб чорны, белы
І з прысмакам
На роднай ніве, за мяжой.
І толькі думка-небарака
Аж пад Чарнобылем ужо.
Пад Астраўцом, дзе ў полі белым
Лунае кнігаўка, крычыць.
Над Віліяю памутнелай
Штодзень хвалюецца аб чым?
Прыйшла жытоў тугая хваля
Да рук руплівых, да двароў.
А ты, прысеўшы ўзбоч, сказала б:
— Дасць Бог — абыдзецца дабром.

3

Так са шляхоў-дарог няблізкіх
Жыццё нанова і для ўсіх
На ўлонне цёплае калыскі
Крыкліва сыдзе з рук святых.
Бо нават цені і праменні
Зямлі трымаюцца ладком.
Жыве зямное прыцяжэнне
І гравітацыя радкоў.
Яго Ушаччына смуткуе
Па пільным позірку вачэй,
Па язміне, што хату тую
Святлом адшуквае яшчэ.
Буслы ляцелі па-над лесам
У казку добрую адну,
Каб тут Алёны і Алесі
Люлялі ўвесну старану.
Мы, як сабе, стагоддзям верым.
Паставім кропку тут,
Але
Паставім толькі на паперы,
І перагорнем дзень далей.

*Май–чэрвень 2014 г.*

# ЗМЕСТ

## Дзе светла так



## Свет дзівасілу

**Час дзянніцы**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Бялячыц** Рычард Станіслававіч

**СПОВЕДЗЬ НАКЦЮРНА**

*Вершы, паэма*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *Ю. Голуб*
Вёрстка *Л. Гарадзецкай*
Карэктар *Н. Кучмель*

Падпісана да друку 30.03.2015. Фармат 70x90 1/32.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 4,96.
Ул.-выд. арк. 3,95. Наклад 150 ас. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 1.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.